# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (243) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 8 КАСТРЫЧНІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## ВОРАГІ БЯСПРАЎЯ

ВІКТАР РУДЧЫК

Навокал мігацяць разнакалерныя лямпачкі, безупынна звоняць тэлефоны.

Паручнік адлажыў тэлефонную трубку і, кінуўшы вокам на карту горада, хутка бярэ ў рукі мікрафон.

— Галё, «Рэкс»! Галё, «Рэкс»! Тут «Н—5», тут «Н—5», кліч цабе, клічу цабе! Прыём!

— Галё «Н—5»! Галё «Н—5»! — адзываецца рэпрадуктар. — Тут «Рэкс», тут «Рэкс», слухаю цябе. Прыём!»

— Галё, «Рэкс»! Галё «Рэкс»! Знойдзена параненага чалавека. Накіруйся на вуліцу...

Пасля некалькіх хвілін міліцэйскія машыны поўным ходам імчацца ва ўказаным напрамку. Але дзяжурнаму афіцэру грамадзянскай міліцыі некалі адпачыць. Зноў звоняць тэлефоны, зноў клічуць на дапамогу разнаколерныя лямпачкі. Адказная і цяжкая праца.

— Нічога, бывала яшчэ цяжэй, — гаворыць паручнік, выціраючы лоб, пакрыты кроплямі поту. — Сёння ў нас кругом тэхніка, радыё, матарызацыя. А тады?...

Паручнік закурвае папяросу і задуменна ўзіраецца ў сіняшэрыя кружкі дыму, як бы ў іх хацеў знайсці вобраз мінулых дзён.

Дзесьці над Віслай грымела яшчэ кананада вайны. Беластрочына дыхала ўжо свабодай, але крывавым ранам не было пакою. Знаходзілася яшчэ шмат «тыпаў», якія ў гэтыя раны намагаліся заліць атрутны яд.

— Калі ў кастрычніку 1944 года назначылі мяне камендантам Гайнаўскай міліцыі, — успамінае паручнік — было ўжо там 40 міліцыянераў. Засталося нас толькі 12. Другія раз'ехаліся па іншых мясцовасцях.

(Працяг на стар. 2)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ІСТОТНЫЯ СПРАВЫ ГАСПАДАРКІ

Закончыліся ў асноўным палявыя работы. Гэтым, можна сказаць, і закончыўся гаспадарскі год. Але надалей застануцца ў памяці земляробаў, рольнай службы і ўсіх, хто непасрэдна ці пасрэдна змагаўся за ўвядзенне новага ў сельскай гаспадарцы, справы, якія ўладжваліся добра і іншыя — клапатлівыя, але істотныя, якія не пайшлі «гладка». Кожная вёска або цэлая грамадская рада заўсёды мае іх шмат. Варта закрануць некаторыя справы. Аб іх мы гутарым з аграномам у ГРН Старое Ляўкова (Гайнаўскі павет) адначасова сакратаром грамадскага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі тав. Міколай Марчуком.

(Працяг на стар. 7)

Вялікага поспеху дабіліся самадзейнікі сельскагакааператыва з Крывой (Бельскі павет), якія выдаўна па злёце ў Жніне, сарганізаваным з выпадку выйсця «500-га нумара тыднёвіка «Спулдзельня прадукцыйна» занялі разам з двума іншымі калектывамі першае месца сярод калектываў мастацкай самадзейнасці сельскагаспадарчых кааператываў нашай краіны.

На здымку вы бачыце жаночую групу крывянскага калектыву. На стар. 5 піша аб калектыве Віктар Рудчык.

Фота: К. Сэндзікоўскі

## УВАГА ДРАМГУРТКІ

У наступным нумары «Нівы» будзе рэпертуарны дадатак — аднаактавая п'еса Алеся Пальчэўскага п.з. «Суседка». П'еса добра прыстасаваная да вясковай сцэны і драматычныя гурткі павінны задбаць і забяспечыцца ў адпаведную колькасць «Нівы» з гэтым дадаткам. Дадатак бясплатны.





Ад 28 верасня да 8 кастрычніка г. г. грамадскасць нашай краіны адзначае «Дні культуры сярэднеазіяцкіх савецкіх рэспублік».

Мала мы наогул ведаем аб жыцці і агромадных дасягненнях гэтых народаў, якія адбыліся за гады савецкай улады. Ну што ж, Казахстан, ці Узбекістан раздзяляюць тысячы кіламетраў ад нашай краіны. Затое колькі ж у нас супольнага з таленавітымі народамі гэтых далёкіх краін. (Артыкул аб савецкім Казахстане чытайце на стар. 3)

На здымку: на горнай пашы авечак у Казахстане.

Артур ВОЛЬСКІ

## ПАЧАСТУНАК у галодным стэпе

Галодны стэп,
Галодны стэп!
Зялёны чай і белы хлеб,
Шашлык з дымком
і тлусты плоў...
Пералічыць — не хопіць слоў.

— Тут столькі страў, —
смяемся мы, —
што нам, відаць, не ўстаць з кашмы...
А гаспадар — стары узбек —
гаворыць, ломячы праснак:
— Калі працуе чалавек,
яму тады і ежа ўсмак...

Нас вучыць есці ён з рукі,
А сам —
чырвоны, як руда.
На твары —
зморшчын раўчукі,
і як баваўна — барада.
А на далонь яго зірні:
нібы каменні — мазалі.
Ламаў не раз ён кетмяні
на жорсткай стэпавай зямлі...

Галодным зваўся стэп спрадвек.
Галодны стэп!
А нам — няўзнак...
Напрацаваўся чалавек,
...ык і пад'есці можа ўсмак

# САЮЗНІК і ПРЫЯЦЕЛЬ

**Дванаццацігадовы перыяд дзяржаўнай незалежнасці нашага заходняга суседа дае аказію для абмеркавання германскага пытання ў нашым штотыднёвіку.**

**Не падлягае сумненню, што паражэнне гітлераўскай Германіі, а перш за ўсё заснаванне першай у гісторыі германскай сацыялістычнай дзяржавы — Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі — стварыла асновы для кшталтавання сяброўскіх суадносін паміж новай Германіяй і Народнай Польшчай. А сталася гэта дзякуючы таму, што кіраўнікі ГДР і частка германскага народа паслядоўна ўводзілі ў жыццё прынцыпы Пачдамскага дагавору. Калі ў заходняй частцы краіны дэмакратызацыя, дэмілітарызацыя і барацьба з фашызмам аказаліся толькі часовым уступам на карысць пераможцаў, дык ва ўсходняй частцы, у ГДР, гэтыя мерапрыемствы былі асновай кшталтавання новай дзяржаўнасці. Толькі тут была праведзена нацыяналізацыя ўсіх маёнткаў, якіх уласнікі супрацоўнічалі з Гітлерам, толькі тут былі зліквідаваны ўсялякія фашысцкія, нацыяналістычныя і мілітарысцкія арганізацыі. Толькі ў ГДР створаны ўмовы для неабмежаванага развіцця сіл прагрэса, міру і дружбы.**

**Гэтыя глыбокія перамены не адбываліся і яшчэ сёння не адбываюцца без перашкод і цяжкасцей. Нельга ж забываць, што ГДР паўстала на тэрыторыі былой прускай дзяржавы, у якой былі глыбока закаранелымі мілітарысцкія і вялікадзяржаўныя традыцыі. Тут, на гэтых землях, нараджаліся і знаходзілі падтрымку агрэсіўныя імкненні Бісмарка і абоіх Вільгельмаў. Па суседству, у Заходняй Германіі, гэтыя імкненні знаходзяць сабе падтрымку і зараз развіваюцца.**

**ГДР атрымала землі з малой колькасцю сыравіны, без цяжкай прамысловасці, якая вырашае аб сіле і дабрабыце дзяржавы. У ГДР трэба было пачаць пабудову прамысловасці ад асноў. Тымчасам усе прамысловыя цэнтры Германіі апынуліся ў яе заходняй частцы, у ГФР.**

**Зараз у ГДР прырост вытворчасці шпарчэйшы, чым у ГФР. ГДР прадукуе штогод 2 мільёны сталі і 40 мільёнаў кілаватаў электраэнергіі.**

**У пасляваенныя гады на тэрыторыі Германіі адбыліся сур'ёзныя перамяшчэнні насельніцтва. Вядомым з'яўляецца, што бескампрамісная палітыка ГДР у адносінах да фашысцкіх і рэакцыйных элементаў прымусіла большую частку іх пераехаць на Захад. Адначасова ў ГДР прыехалі людзі, якія падвяргаліся ў ГФР паследванням за сваю палітычную дзейнасць на карысць міру і прагрэса. Нават заходнегерманскія крыніцы гавораць, што колькасць гэтых перасяленцаў складае звыш 700 тысяч асоб. Дзякуючы гэтым перамяшчэнням зараз у ГДР пераважная большасць людзей падтрымлівае палітыку свайго ўраду.**

**Палітыка ГДР у адносінах да Польшчы вызначаецца зразуменнем і дружбай. Ужо ў дзевяць месяцаў пасля свайго заснавання ўрад ГДР у Згажэлецкім дагаворы прызнаў недатыкальнасць граніцы на Одры і Нысе, а пасля выступаў у яе абароне перад атакамі заходнегерманскіх рэвізіяністаў. Таму пазіцыя ГДР павінна ўзбуджаць пашану і прызнанне ўсяго польскага народа.**

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# ВОРАГІ БЯСПРАЎЯ

працяг са стар. 1

Непадалёк шумела пушча. У ёй знайшоў сховішча капітан «Зігмунт». Прасідзеўшы цэлую акупацыю без выстралу, зараз пасля вызвалення пачаў дзейнічаць. У распараджэнні капітана «Зігмунта» было каля 800 чалавек прагнучых крыві, гвалту.

Быў прыгожы, святочны ліпеньскі дзень 1945 года. Камендант выйшаў на балкон падыхаць раннім паветрам. «Што за войска? — падумаў, гледзячы на роўныя чацвёркі салдат, выстраеных у калоны, быццам на парад. Паглядзеўшы ў бінокль, зразумеў:

— «Хлопцы» Зігмунта!

Нават сам пан капітан стаяў наперадзе і праз бінокль разглядаў будынак міліцыі (сучасная сядзіба ПЗГС-у). Біноклі іхнія папалі на адну лінію, і яны доўга разглядалі адзін аднаго.

«Ну, канец, — мільганула думка. — Не, не! Жыжым не здамся, не возьмуць мяне!»

Зірнуў на два кулямёты, што побач стаялі на балконе, і крыху лягчэй зрабілася на сэрцы, але зараз зноў падумаў «Іх некалькі соцен, а нас? Нас... 12.» Пабег уніз, да тэлефона. Тэлефон маўчаў. Перарэзалі правады. Даў загад:

— Заняць абарону!

На дарозе сабралася шмат народу, хто толькі мог — уцякаў з горада. «Зігмунт» даваў якіясьці загады. Урэшце сабраў сваё «Войска» і парадным строем адышоў назад у пушчу.

Пасля нейкага часу камендант атрымаў «сардэчныя» прывітанні ад капітана «Зігмунта»: «За тое, што жывеш, — пісаў ён, — дзякуй людзям, якіх так многа чорт прынёс у той дзень».

— Бачыце, які гуманітарны бандзюга! — смяецца паручнік.

Праз Гайнаўку праходзіла тады шмат цягнікоў. Аднаму з іх, якім вярталіся на радзіму савецкія салдаты выпала даўжэй спыніцца ў Гайнаўцы. Падарожжа доўгае вельмі томіць. Салдатам захацелася памыцца ў лазні. Паведамілі яны аб тым мясцовыя ўлады. Але і ў дзяржаўных установах было тады яшчэ шмат людзей, якія трымалі сувязь з бандамі.

У лазню адправілася група афіцэраў. Камандзіры банд «Ластаўка», «Молат» і «Бурага», спалучыўшы свае атрады, толькі і чакалі на гэта.

— Ну што ж, без зброі ды яшчэ распранутых браць вельмі лёгка.

Трывожна адазваўся тэлефон. Паручнік спешна падняў трубку і не прайшло пяці мінут, а міліцэйскі самаход паімчаўся на месца злачынства. Паручнік успамінаў далей.

— Гэты дзень памятаю вельмі добра. Было гэта вечарам 28 студзеня 1946 года. Спраўляў я хрысціны. Разумееце, першае дзіцё. Госці ўжо разышліся. Раптам чую: стральба на вуліцы. У тыя часы гэта не рэдкасць. Усе амаль стралялі. Прыказаў жонцы схавацца з дзіцянём у бяспечнае месца, а сам пачаў хутка апранацца. Не паспеў аднак. Хтосьці выбіў дзверы і некалькі ўзброеных чалавек убегла ў пакой. Злапалі мяне і замкнулі ў нашым уласным арышце. Стральба ўсё больш узмацнялася. Хто, да каго і па якой прычыне страляў, я не ведаў. Потым толькі даведаўся, што застаўся ў жывых дзякуючы толькі баявой падтрымцы савецкіх воінаў, да якіх звярнуліся за дапамогай мае сябры — міліцыянеры. Банда адступіла.

— Гэта была мая першая сустрэча з «Ластаўкай», «Молатам» і «Бурым», але не апошняя. Шмат часу прыйшлося шукаць гэтых ваўкоў, шмат напсавалі яны нам крыві, шмат найлепшых таварышаў загінула, ачышчаючы гэтыя скулы на маладым, яшчэ не зусім узмацнелым, целе нашай дзяржавы. Пасля іх засталася толькі дрэнная слава. Нават успамінаць не варта. А ўвогуле прабачце, ужо канчаецца маё дзяжурства і мне трэба падрыхтаваць рапарт са сваёй службы.

Мы развіталіся. Я яшчэ раз прабег вачыма па ўсім абсталяванні дзяжурнага кабінета. Разнакалерныя лямпачкі далей мігацелі сваім таемным святлом, тэлефоны трывожна званілі. На вуліцы імчаліся самаходы, ішлі людзі. Спакойнае, штодзённае жыццё.

«Як добра, — падумаў я, — што ёсць людзі, якія ўдзень і ўночы клапоцяцца аб тым, каб нашае жыццё было яшчэ больш спакойнае, больш бяспечнае».

І неяк лягчэй стала на душы.

**ВІКТАР РУДЧЫК**




## МАРШ МІРУ

**Нядаўна ў СССР прыбылі ўдзельнікі маршу міру Сан Францыска — Масква. На граніцы сустрэлі іх прадстаўнікі Савецкага Камітэта Абаронцаў міру з Брэста, адкуль удзельнікі маршу міру накіраваліся ў далейшую дарогу праз Мінск да сталіцы Савецкага Саюза.**




**На здымку ўдзельнікі маршу на шляху з Брэста ў Мінск. Удзельнікі нясуць транспаранты з лозунгамі, якія дамагаюцца раззбраення і міру.**




Мінай памалу накіраваўся да хаты маці. Ішоў і прыглядаўся да аўтамашын з сорокапяцімілімётровымі гарматамі, якія стаялі каля платоў. Думаў аб тым, што асноўныя сілы Чырвонай Арміі, відавочна, яшчэ толькі падцягваюцца сюды. А гэтыя толькі ўрэзаліся вузкім клінам у сетку нямецкіх гарнізонаў. Ці паспеюць падыйсці нашы, не даўшы фашыстам апамятацца, арганізаваць супраціўленне, перайсці ў атаку? Хто ведае...

Адчыніў дзверы ў хату — і адразу ўбачыў маці.

— Мінай! Сыночак! — сказала яна, выцягнуўшы дрыжачыя рукі.

Пад іконамі, на шырокай лаўцы, сядзеў Ісак Осіпаў і Ніл Шмыраў.

— Ну, бацька, прышло на нашу вуліцу свята! — сказаў Осіпаў. —



Ты чуў, што лыжнікі ўвесь гарнізон у Астраўскім перабілі.

Ніл паглядзеў на яго, адкашляўся:

— А цывільных у Суражы ўсіх пастралялі...

— Хто табе сказаў, хто? — абурыўся Ісак. — Сам ведаеш, што іх у Віцебск пагналі.

— А тракт з раніцы нашымі перарэзаны, — засупярэчыў Ніл. — Вось і трапілі між агонь.

— Сказаў! Які ж тут «агонь», калі ў Кароўках і Пішчыне — нашы? Цывільныя да іх і перабеглі!

— Адкуль ты ведаеш?

— Інакш і быць не можа! — Осіпаў падняўся з лаўкі і, хлопнуўшы Міная па плечах, дадаў: — Хутка, Піліпавіч, і ты сустрэнешся са сваімі!

Мінай уздыхнуў:

— Нешта, Ісак, на сэрцы цяжка.

— А ты не муч сябе. Дык армія тут! Значыць і рабяты будуць цэлыя.

У хату ўвайшла сястра Шкрэды, Ванда.

— Я да вас, Піліпавіч, ад брата, — сказала яна. — Рычард прасіў



вас неадкладна на фабрыку прывезці.

Мінай пачаў збірацца: у Пудаці ён цяпер больш патрэбны, чым тут.

— Паеду немцаў лавіць, — сказаў, павярнуўшыся да Осіпава. А калі развітаўся з маці, паклікаў яго:

— Выйдзі, браток, на хвіліну...

Ісак пайшоў за ім. Затрымаліся на ганку. Мінай сказаў:

— Раю не гаварыць, што я хаваўся ў цябе. І Нілу тое ж перадай. Становішча можа змяніцца.

Осіпаў строга паглядзеў на яго:

— Ты думаеш?.. — але не дакончыў сказа, тут жа заківаў галавою: — Зразумеў, Піліпавіч, зразумеў. Няўжо яшчэ вернуцца?

...У Пудаць прыехалі пад вечар. Дом Міная фашысты спалілі яшчэ паўгода назад, і таму давялося затрымацца ў Шкрэды. Мінай чым хутчэй падзяліўся з ім сваімі меркаваннямі: пакуль атрад распускаць нельга, наадварот, трэба ўзмоцніць яго коштам найбольш адданых і боездольных калгаснікаў.

— Рыхтуй людзей, камісар. Заўтра ў Бянцяях збор. Там і вырашым усё.



У Бянцяях вырашылі чым хутчэй вылавіць гітлераўцаў і здраднікаў, шмат якіх хавалася ў лесе.

Размясціўшыся на дзесяці санях, атрад рушыў на лясныя дарогі глухой Сцяпанавіцкай дачы, дзе яшчэ нядаўна карнікі жорстка праследвалі партызан. Цяпер народныя мсціўцы гаспадарамі вярталіся сюды.

У лесе Мінай разбіў атрад на тры групы: першая, з камісарам, накіравалася ў Чыатухі, другая, з Варфаламеевым, у Забарочча, а трэцюю Мінай вырашыў сам весці ў далёка закінутыя ў лесе Канашы, куды нанач павінны былі сабрацца і ўсе апошнія партызаны.

Прыбылі ў Канашы пад вечар. Сані затрымаліся перад хатай старшыні калгаса Баранава.

— Гаспадар, сустракай! — крыкнуў Мінай да Баранава, які калоў на панадворку дровы.

Той азірнуўся — і адразу пабляднеў, нават сякеру выпусціў з рук. Паспешліва падбег да саней.

— Як гэта вы? Сярод белага дня... Дык вас зловяць!


Фрагмент сталіцы Казахскай ССР — Алма-Аты.

# САВЕЦКІ КАЗАХСТАН

Казахстан — другая, калі гаворым пра велічыню, рэспубліка Савецкага Саюза займае плошчу 2.756 000 квадратных кіламетраў (8 разоў большы ад нашай краіны). Аднак населены ён даволі рэдка — 3 асобы на адзін квадратны кіламетр. Гэта таму, што 50% плошчы Казахстана займаюць пустыні. Невычэрпанымі з'яўляюцца мінеральныя багацці гэтай краіны. Раён Алтая багаты медзянымі, цынкавымі, алавянымі і сярэбранымі рудамі. Ёсць золата, жалеза і манган. Ёсць таксама нафта.

Казахстан, пасля Украіны, з'яўляецца найбольшым у СССР прадуцэнтам збожжа. У гадах 1954—60 у Казахстан паехалі тысячы добраахвотнікаў з усіх бакоў вялікага Савецкага Саюза. Яны загаспадаравалі тут 30 мільёнаў гектараў цалінных зямель. Перад загаспадараваннем іх, Казахстан даваў каля 100 мільёнаў пудоў збожжа ў год. За апошнія 5 год сельская гаспадарка Казахстана давала ўжо па 705 мільёнаў пудоў збожжа ў год.

Небывалага развіцця набыла асвета і культура Казахстана за гады савецкай улады.

Зараз толькі ў сталіцы Казахстана Алма-Аце (пабудавана яе ў гады савецкай улады) існуе 7 вышэйшых навучальных устаноў. Сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы Казахстана, за параўнальна кароткі час свайго існавання адукавалі 300 тысяч высока кваліфікаваных спецыялістаў, якія зараз працуюць у розных галінах гаспадаркі.

Варта адзначыць і тое, што ў гэтай далёкай азіяцкай краіне на 10 тысяч насельніцтва прыпадае 74 студэнтаў у той час, калі ў славутай на ўвесь свет са сваіх навучальных устаноў Францыі на 10 тысяч насельніцтва прыпадае 40 студэнтаў, а ў Італіі толькі 34 студэнтаў.


На новазагаспадараваных землях Казахстана паўстае магутная прамысловасць.

Сёння ў Казахстане налічваецца 6.500 бібліятэк, звыш 3000 кіно, тысячы фабрычных і вясковых клубаў, сотні дамоў культуры. У Казахстане, якому неабходна была дапамога Масквы і Ленінграда ў надрукаванні першых школьных падручнікаў, дзе адзінай кніжкай, якая даходзіла да аулаў, быў уручную напісаны Коран, сёння друкуецца сотні ўсялякіх кніг, падручнікаў і навуковых прац на роднай казахскай мове, агульным тыражом у шмат мільёнаў экземпляраў.

Паўстаюць новыя тэатры, у тым ліку Дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балету імя Абая, які мае ўжо за сабой 25 гадоў прыгожай працы распаўсюджвання нацыянальнага казахскага і агульнасавецкага мастацтва.

Усе гэтыя дасягненні маглі адбыцца дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы, якая паслядоўна ажыццяўляецца на тэрыторыі ўсяго вялікага Савецкага Саюза. Варта яшчэ адзначыць, што рэформы праведзеныя савецкай уладай у Казахстане, ці іншых рэспубліках Сярэдняй Азіі, не былі лёгкай справаи. Праводзячы іх трэба было падвяргацца закіду парушэння адвечных звычаяў, якія асабліва ў народаў Азіі вельмі моцныя.

Сярод феадальнай старшыны распаўсюдзілася многажэнства, асвечанае ісламам і прарокам, які дазваляў мець 4 жонкі. Казахская дзяўчына была заўсёды прадметам куплі - продажу. Аддавалі яе замуж за калым (выкуп), які атрымоўваў яе бацька, брат, найбліжэйшы сваяк ці апякун.

Маладая жанчына ў выпадку смерці мужа пераходзіла на ўласнасць да яго брата, або да найбліжэйшага сваяка, як другая ці трэцяя жонка. Гэты звычай быў абумоўлены фактам, што жанчына, за якую выплацілі калым, заставалася ўласнасцю роду.

Сённяшняга жыцця казахскай жанчыны, зрэшты, як і жыцця ўсяго народу, зусім нельга параўноўваць з колішнім. Яна нароўні з мужчынай вучыцца ў вышэйшай навучальнай установе, займае адпаведную пасаду паводле яе адукацыі і здольнасцей. Такі сённяшні Казахстан. (вб)

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ сярэдняазіяцкіх народаў СССР

**КАЗАХСКІЯ**

Калі ёсць у цябе жыцця напаўдня, то збірай багацце на дзень.

Чым ездзіць на дрэнным кані, лепш памерці на добрым.

**КАРАКАЛПАЦКІЯ**

У пустыні цані возера, на зямлі — людзей.

Выцягвай ногі на даўжыні подсцілкі.

**КІРГІЗСКІЯ**

Горы і камение разбурае вада, чалавека губіць слова.

Дзяўчаты ўсе добрыя, адкуль дрэнныя жонкі бяруцца?

**ТАДЖЫКСКІЯ**

У тую хату, дзе не заглядае сонца, прыходзіць доктар.

Усадзі спачатку нож у сябе — калі не баліць, тады ўжо ў другога.

**ТУРКМЕНСКІЯ**

Воля госця ў гаспадара хаты.

Хто глядзіць у зямлю, таго і зямля баіцца.

**УЗБЕКСКІЯ**

У салодкіх словах праўды мала.

Лепш быць саломінкай пшаніцы, чым зернем пустазелля


На сцэне музыкальна-драматычнага тэатра Караганды.

---

— А колькі ў вас паліцэйскіх? — зрабіўшы выгляд, быццам злякаўся, спытаў камандзір.

— Трое! Але яны ж і ў Чыатусе, і ў Забароччы! А ў Азёрках сем чалавек! Як вы адважыліся?

— Армія, браток, прышла, армія! Не чуў? Другі дзень каля Суража б'юцца!

— Гэта праўда? Няўжо перажылі? Няўжо свабодныя?

— Свабодны, Пётр! А ну, хутчэй паказвай, дзе хаты тутэйшых паліцаяў!

Прывязаўшы коней, партызаны накіраваліся ўздоўж крывой вуліцы.

— Тут Гук жыве, — прашаптаў Баранаў, паказваючы на невялікую новую хату з крытым ганкам.

— Той самы Гук, што служыў у Нізкіх? Ваеннапалонных лавіў?

— Ён... Толькі асцярожней, Мінай Піліпавіч: у яго зброя.

— Мы таксама не з кіямі, Пётр. Стукай!

Дзверы адчыніў сам паліцэйскі. Не гаворачы ні слова Мінай ударыў

124

яго ў скронь рукаяткай рэвальвера. Паліцэйскі ўпаў, і партызаны быстра звязалі яго.

Пайшлі далей. Другі паліцэйскі спрабаваў супраціўляцца, але яго адразу абяззброілі. Трэцяга ўзялі ў лазні.

Ноччу ў вёску прыбылі групы Шкрэды і Варфаламеева. Яны прывезлі з сабою адзінаццаць арыштаваных.

Памалу, баязліва ўваходзілі немцы і паліцэйскія ў хату, яшчэ ля парога здымаючы шапкі. Збіліся ў кучу, не падымаючы вачэй.

— Вы пазнаяце мяне? — спытаў Мінай, падняўшы над галавою газавую лямпу, каб ворагі маглі лепш разглядзець яго.

Сярод арыштаваных пранёсся ні то ўздых, ні то ўсхліп страху і асуджанасці. Адзін з іх хаваўся за спіны суседзяў.

— Эй, Баннікаў, — аклікнуў яго Мінай, — выходзь наперад. Табе першаму адказваць перад народам!

Паліцэйскі не вышаў — другія вытаўкнулі яго да стала, за якім сядзелі партызаны і калгаснікі. Мінай упрытык падышоў да яго, стрымліваючы сябе спытаў:

125

— Колькі махоркі табе далі за забойства сумленных савецкіх людзей? Адказвай, гад! Помніш, як камендант хваліў цябе за жорсткую руку?!

Баннікаў упаў на калені:

— Мінай Піліпавіч! Таварыш Шмыраў... — ад страху язык у яго блытаўся. — Мы заблудзіліся, не туды зайшлі... Я трапіў пад уплыў... я памыліўся. Дазвольце даказаць... — ён паспрабаваў пацалаваць нагу камандзіра.

Мінай не паспеў адказаць — прыгавор за яго вынес стары калгаснік:

— Вы сваё ўжо даказалі, — цвёрда сказаў ён. — Патрапце хоць памерці па-людску. Хопіць, Мінай. Трэба канчаць іх. Усіх!

І здраднікаў вывелі. Неўзабаве здалёк прагрымела некалькі залпаў.

І вось зноў — ёлкі, дубы, сосны. Маўчыць запарушаны інеем бор. Маўчаць і партызаны, занятыя сваімі думкамі.

Мінай думае аб беларускіх землях, якія мучацца ў фашысцкім палоне, аб Суражы, дзе грыміць бой, аб Лізе, Міхасю, Зіне і Сярожы... Дзе яны, найдаражэйшыя на свеце? Ці жывыя, ці чакаюць свайго татку, ці...

126

Ён моцна ўдарыў каня, і конь нясецца так быстра, што дрэвы зліваюцца ў бела - шэрую сцяну.

— Давай, давай!

Са скрыпам нясецца за ім і ўвесь абоз. Але вось і Вацяхі. Да саней прыбег Патапаў. Мінай не бачыў старога з той пары, як выдаў яму распіску за нарыхтаванае для немцаў масла. У вачах старога адначасова і радасць і страх:

— Куды сабраўся, Мінай?

— У Курына, а там і ў Сураж.

— Што вы! У Курыне — немцы!

— А як жа нашы лыжнікі? Яны пашлі на Віцебск?

— Павярнулі. У Астраўскім зноў нямецкі гарнізон. Усе вёскі па рацэ ў іх руках.

Паведамленне Патапава ашаламіла партызан: значыць, навокал зноў ворагі. Рана, выходзіць, цешыліся, гітлераўцы яшчэ сільныя, вельмі сільныя...

**(Працяг за тыдзень)**

127

 

# ГІСТОРЫЯ беларускай НАРОДНАЙ К•У•Х•Н•І

Шматгадовую, багатую і цікавую гісторыю мае беларуская народная кухня. Яна зрабіла значны ўплыў на кухні сваіх суседзяў — рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў. Вядома, і руская, і украінская, і польская, і літоўская кухні аказалі ў сваю чаргу ўплыў на беларускую кухню. Аб гэтым гавораць агульныя назвы адных і тых жа страў, што сустракаюцца ў кулінарыі гэтых народаў.

Сучасны літоўскі вучоны В. Мілюс у сваёй працы «Страва і хатняе начынне літоўскіх сялян у XIX — XX ст. ст.» гаворыць, што літоўцы і латышы запазычылі слова талакно — ад беларусаў. Талакно — спецыяльна прыгатаваная аўсяная мука. Агульная назва супа з круп у беларусаў — крупнік, крупеня; у палякаў — крупнік, у літоўцаў — крупнікас. Добра вядомая беларуская зацірка ў літоўскай кухні мае назву зацірка, у польскай кухні — зацерка, ва украінскай — затірка.

— Кіслая каша ў літоўцаў і латышоў, у беларусаў — путра, ва украінцаў — путря. У літоўцаў адрэзаны ад бохана кавалак хлеба — люстас, у беларусаў — луста.

Асаблівае месца ў харчаванні народа належала хлебу. Яго лічылі святым, надзённым. Многа ласкавых назваў і эпітэтаў даў яму народ. «Хлеб у доме — таспадар, на працы — друг, у дарозе — таварыш», — гаварылі аб ім. Ці яшчэ: «Хлеб над усім пануе», «Хлеб — усяму галава».

У дзяцей з маленства выхоўвалася пашана да хлеба. Нават калі ў іх была бойка, сварка, то і тады спачатку хлеб адкладваўся ў бок, і толькі пасля заканчэння бойкі яго бралі і даядалі. З хлебам ішлі на хрэсьбіны, у сваты і на вяселле. З хлебам і соллю праводзілі і сустракалі дарагіх гасцей. Гэты добры звычай і цяпер застаўся ў нашага народа.

Але селяніну - бедняку хлеб чысты прыходзілася есці вельмі рэдка, нават і восенню, калі, як кажуць, і верабей быў багаты. Старыя людзі і цяпер добра памятаюць, як у хлеб дадавалі многа розных прымесей і сурагатаў. Калі хлеб пяклі з чыстай жытняй прасеянай мукі, то такі хлеб называўся пірагом. Перад тым, як пасадзіць яго лапатай у печ, гаспадыня гаварыла: «Госпадзі, благаславі! З чаго хлеб, з таго і пірагі!»

Па меры таго, як аддаляўся час ад жніва і змяншаліся запасы жыта, хлеб мяняўся па свайму выгляду і якасці. Таму ён меў у народзе некалькі характэрных назваў. Самая нізкая якасць хлеба, вядома, была вясной. Лічыўся яшчэ добрым хлебам «паловы», «градовы» і «пушны». Градовы хлеб пёкся з непрасеянай жытняй мукі. Далей ішоў паловы хлеб. Ён складаўся з дзвюх роўных палавін, з якіх адна была заўсёды жытам, а другая — грэчка, ячмень, або авёс. Пра такі хлеб гаварылі, што яшчэ не паспеў спячыся, як ужо зачарствеў.

Сапраўдным бядняцкім хлебам вясной і асабліва ў галодныя неўраджайныя гады быў мякінны хлеб. Для такога хлеба ў аснову бралася жытняя, аўсяная, прасяная, льняная, грэчневая мякіна. Толькі як звязваючае рэчыва была ў ім мука. «З мякінаю лёгка хадзіць, ды цяжка ногі валачыць», — казалі пра такі хлеб. Але бывала, што ў галодныя гады і мякіны не хапала, тады прыходзілася пячы хлеб з жалудоў, з кары, шчаўя, крапівы, асоту, лебяды. «Не бяда, калі ў хлебе лебяда, — тады бяда, калі хлеба няма». Пра гэта сведчылі і назвы некаторых бедных вёсак і іх жыхароў, такіх, як Караеды, Мякіннікі і іншыя. Так было з хлебам у сялян — беднякоў і ў сераднякоў у мінулым.



Сталінградская гідраэлектрастанцыя імя XXII з'езду КПСС адна з найбольшых на свеце. Днём і ноччу праходзяць судны праз шлюз.

# ХВАЛЯЛОМ

**У Бамбейскім (Індзія) парту пабудаваны хвалялом арыгінальнай канструкцыі. Пераважна хваляломы будуюцца з каменных альбо бетонных блокаў. Недахопам такога хвалялома з'яўляецца тое, што хвалі размываюць пясок і камені пад блокам і кругом яго. У выніку чаго канструкцыя асядае альбо асоўваецца ў больш глыбокае месца.**

**Бамбейскі хвалялом прадстаўляе сабою сукупнасць «цэнтраподаў» — стальных балванак які складаецца з чатырох секцый, замацаваных балтамі. Акругленная паверхнасць такой канструкцыі дазваляе ў значнай ступені паменшыць сілу размыва. Устаноўка манціруецца проста на месцы, што таксама дае перавагу перад каменнымі блокамі, транспартаванне якіх каштуе даволі дорага.**



# М О Д А

**Дамскія плашчы з моднымі шалямі добрыя для кожнай фігуры. Неабходна звярнуць увагу на падбор матэрыялу. Справа ў тым, што плашч пашыты з матэрыялу ў шырокія палоскі не вельмі падыходзіць для таўставатай і нізкай жаночай фігуры.**





## Навіны тэхнікі

**Кокс з торфу.** Штучны буры вугаль атрымалі савецкія спецыялісты з торфу. У прыродзе падобнае пераўтварэнне патрабуе мільёнаў год, а ў лабараторыі некалькі мінут. Каштоўнасць яго ў тым, што з яго можна атрымаць высакаякасны металургічны кокс.



## НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

# Палын горкі

**Беларуская назва: палын; руская: полынь.**

Вельмі папулярная, усім вядомая расліна. Яна расце на пустэчах, межах, на засеяных палях і фактычна з'яўляецца пустазеллем.

Збіраюць у час цвіцення галінкі з кветкамі і лісцем.

Палын прымяняе навуковая народная медыцына. Ён ужываецца ўнутр у парашках, у настойцы (на спірце, гарэлцы) і адвары як ветрагонны сродак, як сродак, што ўзбуджае стрававальную дзейнасць страўнікава - кішэчнага тракта і ўзмацняе апетыт.

У пачатковай стадыі запалення сляпой кішкі п'юць два разы ў дзень, раніцай і вечарам, палыновую настойку на спірце па 12—15 кропель на лыжку вады. Круглых глістоў гоняць, прымаючы па тры лыжкі чаю з лісця палыну на працягу дзесяці дзён раніцай (нашча) і ўвечары (перад сном). Кожны раз пасля гэтага чаю рэкамендуецца з'есці паўшклянкі свежасцёртай морквы.

Пашкоджаныя ўдарам мясціны абкладваюць анучкай, змочанай у воднай настойцы палыну. Палыном трэба карыстацца асцярожна, асабліва пры малакроўі. Працяглае прымяненне палыну, нават у невялікіх дозах, можа прывесці да сутаргаў і галюцынацый.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

■ **Самае навальнічнае месца на зямным шары знаходзіцца ў раёне Бютэнзорга на востраве Ява (Азія), дзе маланкі бліскаюць 322 дні ў год.**

■ **Самая першая фатаграфія была зроблена французскім вучоным Жозефам Нісефорам Н'епсам у 1826 годзе. Ён упершыню знайшоў спосаб замацавання адбіткі, выкарыстоўваючы для гэтага пасярэбраную медную пласцінку, пакрытую слоем светлачулага асфальтнага лака.**

■ **Самая вялікая прэснаводная рыба — асетр — была злоўлена ў Волзе. Яе даўжыня была 7,8 метра, а важыла яна 1.440 кілаграмаў.**

■ **У Варшаве, найбольш сельскагаспадарчай сталіцы Еўропы, жыве 53000 кароў і цялят, звыш 4000 коней і больш чым 220000 штук хатняй птушкі.**

# БАБІНГА

У джунглях Афрыкі непадалёк экватара жывуць нізкарослыя людзі пігмеі — племя бабінга. Сільныя і спрытныя гэта людзі. Яны ўмеюць стрымаць слова і ніколі не пакідаюць у бядзе таварыша. У «прымітыўных» «няпоўнацэнных» пігмеяў — як гэта называюць іх буржуазныя расісцкія тэорыі — «цывілізаваны» еўрапеец мог бы падвучыцца вынаходлівасці, высакародству, смеласці. Пігмеі жывуць быццам адной сям'ёй. Разам будуюць лагер, ходзяць на паляванне, ловяць рыбу, адпачываюць. Калі ў аколіцы лагера ў джунглі становіцца менш мёду, дзічыны ці іншай ежы, пігмеі перакачоўваюць у іншыя аколіцы.

Перад адыходам пігмеі наладжваюць танцавальную цырымонію. Жанчыны ўпрыгожваюць адна адну: брыюць галовы, пакідаючы кругом макушкі каёмку коратка астрыжаных валос. Твар абмазваюць сіняй фарбай выціснутай з пладоў. На клубы надзяваюць новыя павязкі з лісцяў. Мужчыны не ўступаюць жанчынам. Яны абмазваюць тулава, твар ясным ілам і наносяць на яго чырвоныя палоскі. Пасля распальваюць касцёр і пачынаюцца развітальныя з мясцовасцю танцы, спевы, гульні.

Перакачаваўшы ў іншую адлеглую мясцовасць, будуюць там уручную новыя хіжыны. Кожная сям'я распальвае касцёр, на якім варыць ежу. Асабліва ноччу касцёр неабходны. Ён прыносіць цяпло, бо ночы прахладныя, а дым разганяе маскітаў і дзікіх пчол. На долю мужчын у пігмеяў выпадае паляванне — з яго рыскам, абарона племяні ад ворагаў і ад дзікіх звяроў. Мужчыны заўсёды ўзброены і заўсёды напагатове. Доля жанчын не вельмі цяжкая. Жанчыны шукаюць прыдатных да ежы раслін, трымаюць парадак у лагеры і даглядаюць дзяцей.



 

 

# ДУБІЧЫ

Прызнаюся, што быў я ў Дубічах познім вечарам, каб людзей не сустрэць. Яны ж мяне маглі на гарэлку цягнуць, а я чалавек не пітушчы. Я ўжо такі, што калі ўспомню, колькі ў нас перавадзіцца зярнят на жытнёўку, калі ў іншых краінах, як напрыклад, у Конга патрабуюць куска хлеба, дык сумленне не дазваляе падымаць да губоў кілішак.

Закуску ў нас таксама мала хто эканоміць. Нейк прачытаў я ў друку, што жыхары Чэнстаховы ў мінулым годзе выпілі мора гарэлкі і з'елі 28 тысяч кароў. На Беласточчыне з ядой таксама справа не лепш выглядае.

Сам я бачыў, як у Гайнаўскім рэстаране чалавек уплятаў яешню з шасці яек. Ці ж не мог бы гэты грамадзянін, раздуй яго гарой, з'есці скромна два яйкі? Са з'едзеных гэтай абжорай яек было б шэсць курыц, кожная знясла б 100 яек, а з гэтых яек... Калі я грамадзяніну з яешняй вылажыў гэты разлік, ён адказаў:

— Адкуль ты, Дзядзька, ведаеш, што з гэтых яек выйшлі б курыцы, а не пеўні?

Вось і папрабуйце з такімі абжорамі наладзіць сітуацыю на фронце ежы. Дзеля эканоміі яек, масла, мяса і другіх экспартовых прадуктаў, па-мойму ў кожнай вёсцы і ў кожным рэстаране варта павесіць лозунг:
«Ешце людзі маргарыну,
Яна лепша за вяндліну.»

Каб пабольшыць рэзервы сельгаспрадуктаў, апрача эканоміі, нашыя вучоныя абавязаны дадумацца, як адно яйка два разы высядзець. Без гэтага ніякай рэвалюцыі ў спажывецкай прамысловасці мы не зробім.

Прабачце, мілыя чытачы, зарапартаваўся я і ад Дубіч ад'ехаў. А Дубічы — вёска небяспечная. Стаяць там хаты адна каля другой так блізка, што суседзі вітаюцца працягваючы рукі з вокан. Грамаадводаў у вёсцы не відаць. Бестурботны народ у Дубічах. У выпадку пажару тут такі касцёр узнімецца, што і неба спацее ад гарачыні.

Пагоду людзі ў Дубічах пазнаюць старым, але спрактыкаваным спосабам. Замест барометраў яны карыстаюцца рэўматызмам. Гэта зусім зразумела, зважыўшы, што барометр каштуе 500 злотых, а рэўматызм людзі атрымоўваюць бясплатна. Дык вось, калі ў суставах пачне ныць ды круціць, людзі кажуць, што на дождж збіраецца. Ды і наогул Дубічы вёска цікавая і перш за ўсё доўгая. Пакуль пройдзеш вуліцай — ад суму лопнеш. Таму ў Дубічах шмат веласіпедаў.

Усё, што я аб Дубічах прапусціў, няхай самыя сімпатычныя дубічане дапішуць, ды жывуць здаровыя.

*Дзядзька Лявон*







У Белавежскай пушчы

# БЯДА АД СОЛІ

Пачалі балакаць людзі:
— Сёння, заўтра вайна будзе.
А хто грошай многа меў,
Віхрам у краму паляцеў.
Харытонава Людміла
Вось купіла скрыню мыла,
Мяшок соды, газы бочку,
Зvalькі шоўку на сарочку.
За апошнія жа грошы
Ўзяла трыццаць пар галошаў.
Муж Людмілы, Харытон,
Ударыў з жонкай у адзін тон.
Не сцяміўшы ён у пору,
Соллю заваліў камору.
Соль і ў яме на двары,
Соль таксама на гары.
Дачка кажа: — Хіба, мама,
У нас будзе свая крама?
Сынок кажа: — Тата, тата,
Заваліцца наша хата.
Глянь, цяжар на ёй за велькі,
Гнецца столь і трашчаць бэлькі.
Страшна ў нашай хаце жыць,
Соль нас можа прываліць.

Міхась Красоўскі
Малынка



— Калі ласка, настаўце найбольш галосную пласцінку.




САМАДБСЛУГОЎВАННЕ

### ПРЫГОДА

— Што з табою? — пытаецца Валеры Ігара, убачыўшы яго з разбітым носам і сінякамі пад вачыма. — Ты біўся?

— Не.

— Быў на трэніроўцы боксу?

— І то не. Гэта была катастрофа... на чыгунцы.

— Ну!?

— Сядзеў я ў цягніку побач з прыгожай дзяўчынай і яе бацькам. Поезд трапіў у тунель.

— І ты хацеў яе пацалаваць?...

— Так. Але пацалаваў яе бацьку...

Зэнка

### СКАЗАЛА ПРАЎДУ

— Што табе вывара- жыла цыганка?

— Што хутка спаткае мяне няшчасце...

— Адкуль яна магла ведаць?

— Не ведаю, але сказала праўду, бо калі яна выйшла, то я ўбачыла, што няма майго гадзінніка.

Лявонь Федарук
Рыбалы

### У КРАЎЦА

— Калі будзе гатовы мой новы касцюм? — пытае Грыша краўца.

— Тады, калі заплаціш за папярэдні.

— Ну, так доўга чакаць я не магу, — адказаў Грыша.

Мікалай Петручук
Сакі

### МАМА І МІША

Мама, пераглядаючы сшытак Мішы, убачыла ў ім двойку і пытаецца:

— Чаму ў цябе двойка, гультай?

— Гэта яшчэ добра, што двойка. Другім вучням настаўнік нічога не паставіў, — адказаў Міша.

Ваня Бура
Тарнопаль

### У СУДЗЕ

— Чаму вы не баранілі пабітага, калі яны біліся? — пытае суддзя сведку.

— Я тады яшчэ не ведаў, хто будзе пабіты, — адказаў сведка.

Аркадзь Латоўскі
Лесна

### ПАМІЖ СУСЕДКАМІ

— Чаму ваш сын такі малы? — пытае суседка суседку.

— А ці я вінавата? — кажа тая. — Я ж яго не выбірала, якога Бог даў, такі і ёсць.

Янка Зданоўскі
Альхоўка



Памысловая



— Ура! Злавіў адну...







Без слоў.





На лячнічым курорце

# Пра паклоннікаў шклянага бога

Ён прыплюганіўся з клуба ў дзве гадзіны ночы, самазадаволены, лагодненькі, як бычэчак. Яму было так весела, лёгенька і слізка, што ўвесь дом так і гойдаўся, так і гойдаўся, нібы на хвалях.

Ён перачакаў, пакуль сходцы ганка падплывуць да яго, і ёменька сіганўў уверх.

А дом быў ахоплены такой зыбавіцай, такой гайданкай што - ні туды, ні сюды.

Ён не спускаў вачэй з уваходных дзвярэй, і, калі з вялікімі намаганнямі дацягнуўся да ручкі, перамог моцны левы крэн свайго корпуса, і, бразнуўшыся галавой аб вушак, рынуўся на сходцы, што вялі на другі паверх. Тут ён стаў рачкі і папоўз; але ж усё ў доме хадзіла ходырам і паўзці было цяжка.

На верхняй прыступцы ён неяктакі ўзяў раўнавагу, прыўстаў, падняў нагу, каб ступіць на пляцоўку, але гэта было звыш яго сіл і галава павяла ўбок, раўнавага парушылася, і ён пакаціўся чурбаком уніз па лесвіцы.

Ачухаўся, выцер гарачую сукравіцу пад носам і з горам папалам усеўся на ніжняй прыступцы, трымаючыся за парэнчу лесвіцы. «Божа літасцівы, — сказаў ён, — а як жа бедным матросікам у адкрытым моры ў такую ноч!»

Марк Твэн

 